

БЕЛАРУСЬ – ЛАТВІЯ

НАТАТКІ Сяргея ПАНІЗЬНІКА

Стар. 4.

СВЯТА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ПОЛЬШЧЫ

Стар. 6.



ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

Наталля ВІШНЕЎСКАЯ: "Я НЕ ПЛАКАЛА, БО НЕ ЎМЕЮ..."

Стар. 5.

СПАДЧЫНА

ДАРОГА ДА ХРАМА

Стар. 4.



НЕЗВЫЧАЙНЫЯ ЗДОЛЬНАСЦІ Ганны ТРАСЦІНСКАЙ

Стар. 7.

У СТЫЛІ БОДЗІ-АРТ

Стар. 8.



АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА · РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

8 ліпеня 1999 года

Цана 20 000 рублёў

№ 27

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі

Выдаецца з 1955 г.


## «АДЦЕННІ ЖЫЦЦЯ»



*Нямецкая і польская дэлегацыі ў час святкавання 70-годдзя Беларускага таварыства дружбы.*

**"Да паразумення вядзе двухбаковы шлях. Добрыя справы не робяцца без узаемнасці. Каго ж і чаму вабіць сёння Беларусь? Сустрэчы з грамадскасцю іншых краін амаль заўжды пакідаюць добрыя пачуцці. Людзі прыязджаюць да нас з жаданнем пазнаць народ, яго лад жыцця, звычаі. Многія маюць патрэбу ў супрацоўніцтве. Сябры падкрэсліваюць тыя здабыткі, якія мы, на шчасце, маем, а ў іх краінах ужо страчаны: жыць не толькі для сябе, але і на карысць іншых. Заўжды заўважаецца пачуццё інтэрнацыяналізму, павагі да нацыянальных культур, духоўных асаблівасцей".**

**Арсен ВАНІЦКІ.**

**Стар. 3.**

## ХВАЛІ МІГРАЦЫІ

Працэс замены старых, савецкіх пашпартоў на беларускія, спачатку не надта бурны, у апошні час прыкметна ажывіўся. Толькі з пачатку гэтага года ў Віцебскай вобласці дакументы новага ўзору атрымалі каля 400 тысяч чалавек. За гэты перыяд амаль 15 тысяч жыхароў Віцебшчыны афармілі матэрыялы для выезду за мяжу.

Большасць з іх — турысты, дзелавыя людзі, а таксама грамадзяне, што сабраліся наведаць родных і сяброў. Ёсць такія, хто мае намер змяніць месца пастаяннага пражывання. Але эміграцыя з лішкам кампенсуецца прыезджымі, што просяць аб грамадзянстве.

Летась, напрыклад, Віцебшчыну пакінула 1 274 чалавекі. Найбольш масавыя выезды — у Расію (522), Ізраіль (401). Каля 100 жыхароў вобласці выбралі Украіну, столькі ж — ЗША, 78 — Германію, 71 — Літву.

А вось нашымі суграмадзянамі за год вырашыла стаць больш за 3,5 тысячы чалавек. У асноўным гэта расіяне (2 121) беларускага паходжання альбо тыя, хто ўзяў шлюб з пастаяннымі жыхарамі Віцебскай вобласці. Нямала перасяленцаў з Украіны (563) і Казахстана (479). Сустракаюцца прыезджыя з Малдовы, Латвіі, дзяржаў Каўказа і Закаўказзя (ад 30 да 50 чалавек). Вярнуліся ў родныя мясціны і 32 нядаўнія жыхары Ізраіля.

Акрамя чыста сямейных прычын, да пераезду ў Беларусь некаторых падштурхоўвае надзея адшукаць тут працу, магчымасць параўнаўча нядорага купіць кватэру. Ёсць пенсіянеры, якія захацелі пасяліцца ў дзяцей, і, наадварот, дзеці, якія пажадалі злучыцца з бацькамі. Ёсць адстаўныя ваенныя, ёсць і людзі, што называюць сябе (часам зусім справядліва) бежанцамі. І хаця з багатых краін у Беларусь мала хто імкнецца, статыстыка сведчыць, што ў дзяржавах СНД наша зямля мае рэпутацыю гасціннай і стабільнай. Больш едуць да нас, чым ад нас.

**Максім АРХІПАЎ.**

## АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

**Прабачце, што раблю гэта ў спазненні, але вельмі ўдзячная вам і шчыра дзякую за абвестку, якую вы змясцілі ў "Голасе Радзімы" аб смерці майго мужа Янкі.**

**Газетай "Голас Радзімы", знаходзячыся ў Лондане, мы заўсёды карысталіся ў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны, паколькі жылі вельмі блізка і былі цесна звязаны. А цяпер у Манчэстэры атрымліваю газету сама. Шчыра вам дзякую за памяць пра мяне.**

**Лёля МІХАЛЮК.**

Англія.

## СПОРТ



Еўрапейскі этап бегу Міру-99, які стартаваў 1 студзеня ў сталіцы Партугаліі — Лісабоне і праходзіць у азнаменаванне новага тысячагоддзя, у канцы чэрвеня пачаў свой шлях па тэрыторыі Беларусі: яго ўдзельнікі прынеслі факел-пасланне міру ў нашу краіну. Ад гэтага агню і быў запалены факел Міжнародных спартыўных гульняў краін Садружнасці, якія адбыліся напрыканцы чэрвеня ў Мінску.

На тэрыторыі Беларусі этап бегу Міру-99 пройдзе да 8 ліпеня, а завершыцца акцыя 31 снежня ў сталіцы Вялікабрытаніі — Лондане.

НА ЗДЫМКАХ: агонь бегу Міру-99 у Мінску; Міжнародныя спартыўныя гульні краін Садружнасці фінішавалі масавым забегам спартсменаў, сярод якіх была і сям'я мінчан Кастэнка — Ірына, Андрэй і маленькая Саша.

Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА і Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.






Фота Івана КУРМАНОВІЧА

## САЛОЎКА

● **Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

Вечар, ціхі, празрысты, пахкі ад кветак і травы. Мы з братам вяртаемся з работы на калгасным полі — палолі буракі.

Вузкая сцяжынка ўецца па шырокім поплаве. Вакол стракатае ад кветак травяное мора. Яно быццам замерла, стомленае за дзень спёкай, і спакойнае, лянівае ляжыць перад намі. Але вось пацягнуў ветрык, пабеглі па траве хвалі ў пене белажоўтых дзьмухаўцоў. І зноў прыціх ветрык. Цішыня.

Раптам быццам насуперак цішыні заспяваў салавей. Яго пошчак спачатку быў зусім кароткі, нібы птушка спрабавала свой голас. Настройвала інструмент. Потым заспявала часцей і мацней. І нарэшце салавей заліўся песняю. Рэха падхапіла яе і панесла ўдалячынь.

— Зірнуць бы на гэтага спевака, — шапнуў я брату.

Асцярожна, прыціскаючыся да пахкай травы, паўзём. Вось ён, кароль птушыных песень. Прымасціўся на тонкай галінцы і пяе. Ён нават не варухнуўся, калі мы прыблізіліся да куста. Проста не верылася, што гэтая маленькая шэрая птушка можа выдаваць такія пранікнёныя гукі.

Салавей спяваў без перадыху і стомы. Мы доўга слухалі. Потым гэтак жа асцярожна адпаўзлі ад куста, баючыся спудзіць "артыста"...

## *Падзеі. Факты.*

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

# НЕТЫПОВЫ ФЕРМЕР

НАЗВАЦЬ "фермерскай" гаспадарку Мікалая Марачкіна, якая размясцілася на ўскраіне 9-тысячнага горада Чэрыкава, можна з нацяжкай. Надта ж яна нетыповая.

Фермер Марачкін пачынае будаваць жывёлагадоўчы комплекс. У чыстым полі -- на былым ваенным аэрадроме плошчай 2,5 квадратнага кіламетра. І бярэ яшчэ 200 гектараў зямлі, для чаго залучае ў фермеры сваю жонку і аднаго з калег. Свінафермы на тысячу галоў і матачнік будуць гатовы да зімы. У плане забудовы -- кароўнік, сховішча для агародніны, камбікормавы цэх, склад фуражу, убойны цэх.

У Чэрыкаўскім раёне зарэгістраваны 8 фермераў. Усе яны сеюць пшаніцу, жыта, ячмень, садзяць гародніну. Ніводны пакуль не рызыкнуў займацца жывёлагадоўляй, хаця мяса і малако -- самы дэфіцытны тавар. Чаму?

— Неяк нас, фермераў, спрабаваў вучыць адказны чыноўнік з вобласці, — расказвае Мікалай Марачкін. — Бярыце, гаворыць, ферму ў арэнду, крэдыты. На пазыковыя грошы купіце тысячу свінаматак і працуйце. А праз год, пярэчу я яму, іх застанецца ў лепшым выпадку палавіна -- здохнуць без кармоў, і фермер стане чарговым бедным селянінам. Каб развіваць вытворчасць, трэба перш за ўсё зарабіць грошы. Я вось шэсць гадоў грошы, напрыклад, збіраў. Рызыка ўсё ж.

Што ж, Марачкіну рызыкаваць не ўпершыню. Калі рушылася старая сістэма гаспадарання, прайшла чутка, што вельмі выгадна саджаць бульбу і збываць яе ў Расіі. Мікалай Марачкін, які ў той час працаваў намеснікам дырэктара па транспарце ў Чэрыкаўскай сельгасхіміі, і два яго аднадумцы вырашылі пачаць фермерстваваць і ўзялі ў мясцовым калгасе "Езерскі" 50 гектараў зямлі. Засеялі яе ячменем. А каб убраць першы ўраджай, скінуліся і купілі там жа, у калгасе, спісаны камбайн. Фермерам тады дзяржава давала яшчэ і крэдыты. Крэдыт ужо пайшоў на пакупку трактара. Страху тады нацярпеліся шмат. Але пранесла. Сабралі ўраджай і зарабілі першыя 7 мільёнаў рублёў. Было гэта ў 1993 годзе. Сталі вырашаць, як жа такімі грашыма распарадзіцца. Калі ўсё адразу ўкласці ў сельскую гаспадарку, то, чаго добрага, прагарыш. Зямлі мала. Надвор'е ў Беларусі такое, што ў адзін год ураджай можа згарэць ад сонца, у другі — згніць ад дажджоў. Тады вырашылі купіць стары МАЗ. Разам яго аднаўляюць і пачынаюць аказваць паслугі па перавозцы грузаў. Гэта дае пачатак развіццю цэлага напрамку ў фермерскай гаспадарцы, якая сёння дастаўляе грузы на МАЗах і лізінгавых "мерседэсах" не толькі ў Расію, але і ў Германію, Францыю, Італію.

Затым чуццё падказвае абароцістаму гаспадару, што, калі расце дыспарытэт цэн на прадукцыю вёскі і тэхніку, новыя камбайны, трактары стануць надзвычай дарагімі. Значыць, калгасы будуць добра купляць запчасткі, з'явіцца неабходнасць аднаўлення і рамонту грузавікоў, камбайнаў і аўтобусаў. Так нараджаецца станцыя тэхабслугоўвання. А магазіны? Адкрыць іх таксама вымусіла жыццёвая неабходнасць. Калгасы ў большасці сваёй "на картатэцы". Грошай няма, але яны гатовы прапанаваць сваю прадукцыю. Так Марачкін дапамог сабе і калегам. Вядома, як і ўсюды, па месяцу, па два фермер затрымліваў зарплату работнікам. Але што зробіш: -- вакол дамінуе бартэр (у гаспадарцы Марачкіна -- 80 працэнтаў ад абароту). Але фермер "вынайшаў" свае крэдытныя карткі, і кожны работнік у кошт зарплаты можа купіць у магазіне любы тавар і прадукт.

Гаспадарка Марачкіна разраслася ў шматгаліновае прадпрыемства ад вялікага жадання выжыць і прыстасавацца да пераходнай эканомікі. Таму яна такая непадобная на традыцыйную фермерскую, але па эфектыўнасці працы перавышае, бадай, усе астатнія.




У племянным саўгасе імя Чкалава Горацкага раёна Магілёўскай вобласці ўстаноўлены і дзейнічае даільны комплекс нямецкай фірмы "Цэбас" з камп'ютэрным кіраваннем дойнага статку. Кожная карова (а іх пакуль 200 першацёлак) мае ашыйнік з датчыкам, які звязаны з галоўным камп'ютэрам. Камп'ютэр вядзе ўлік малака, што паступае ад кожнай каровы. Ад колькасці надоенага малака выдаецца дазіраваная порцыя канцэнтратаў.

Пасля заканчэння дойкі па камандзе камп'ютэра з кароў аўтаматычна здымаецца даільны апарат. Праводзяць даенне ўсяго два аператары, у далейшым яны будуць даіць 600 кароў. Прымяненне ў гаспадарцы ўстаноўкі дазволіць павысіць прадукцыйнасць працы ў 5 разоў, а эканомія энергарэсурсаў узрасла ў 10 разоў у параўнанні са звычайным даеннем. Камп'ютэр на ферме дапамагае эканоміць канцэнтрыраваныя кармы.

**НА ЗДЫМКУ: аператар машыннага даення Мікалай АРХІПЧУК.**

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БелТА.**

ЭКАЛОГІЯ

# ШКЛО СУПРАЦЬ ПЛАСТЫКА

Зараз мы вельмі часта спажываем разнастайныя напоі ў пластыкавых бутэльках. Але гэта ёмістасць, такая лёгкая, зручная і танная, можа хаваць зусім непадзяваную пагрозу нашаму здароўю. Прыцягнуць увагу грамадскасці да праблемы вырашыла Рэспубліканскае беларускае маладзёжнае аб'яднанне "Next Stop-New Life", якое сумесна з маладзёжнай арганізацыяй "Розныя-Роўныя" і пры падтрымцы Мінскага камітэта прыродных рэсурсаў і навакольнага асяроддзя ў чэрвені правяло ў сталіцы Беларусі музычны фестываль "Шкло супраць пластыка". Вёў праграму папулярны ў рэспубліцы дзі-джэй радыё "Бі-Эй" Барыс Штэрн. Ён расказваў моладзі, што сабралася ў той вечар, пра сутнасць праблемы. А дзевяць музычных калектываў па чарзе выходзілі на сцэну і імкнуліся сілай свайго таленту ўздзейнічаць на публіку.

Сапраўды, з цягам часу пластыкавая бутэлька пачынае выдзяляць у вадкасць, якой напоўнена, ядавітае рэчыва — вінілхларыд. Адсюль рэальная пагроза для нашага здароўя. Яшчэ больш мы рызыкуем, калі выкарыстоўваем посуд другі раз. Існуе і іншы бок праблемы: перапрацоўка пластыкавых ёмістасцей у краіне не праводзіцца, і як вынік — выкінутыя бутэлькі забруджваюць двары, вуліцы, месцы адпачынку. І ўсё гэта адбываецца з няспынным нарошчваннем вытворчасці полівінілхларыднай тары ў Беларусі.

**Руслан АНАНЬЕЎ.**

АДПАЧЫНАК



# І СТРОГІМ НАСТАЎНІКАМ ПАДАБАЮЦЦА РЫБАЛКА І ПЕСНЯ ЛЯ КАСТРА

Штогод на пачатку лета маладыя выкладчыкі сярэдніх школ Пружанскага раёна з'язджаюцца на свой турыстычны злёт на беразе маляўнічага возера Паперня. Актыўны адпачынак, удзел у розных спаборніцтвах, рыбалка, песні ля кастра, смачная рыбацкая юшка — усё гэта вяртае строгіх настаўнікаў у студэнцкія гады, дапамагае забыцца на ўсе стрэсы навучальнага года і адпачыць сярод сяброў-аднадумцаў.

НА ЗДЫМКАХ: юшку на абед гатуюць настаўніца Пружанскай сярэдняй школы № 3 Галіна ШПАРЛО і настаўнік фізкультуры гэтай жа школы Леанід АСТАПЧЫК; выкладчык інфарматыкі сярэдняй школы № 4 горада Пружаны Алена АСКЕРКА.

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

ПРАЕКТЫ

# ГІПЕРМАРКЕТ — НОВЫ ЛАД ЖЫЦЦЯ

Вясной будучага года ў Мінску, у раёне праспекта Дзяржынскага, плануецца пачаць будаўніцтва новага магазіна-гіганта, аналагаў якому ў Беларусі пакуль што няма, — гіпермаркета. Работы па яго праектаванню ўжо пачаў інстытут "Мінскпраект".

Як мяркуецца, гандлёвая плошча магазіна складзе 10 000 квадратных метраў, амаль столькі ж зойме галерэя, якая размесціцца побач, і аўтастаянка на 1 160 месцаў. Пакупнікі будуць абслугоўвацца ў 60 касавых боксах. Тут жа наведвальнікі змогуць выкарыстаць паслугі пошты, цырульні, банка, дзіцячага пакоя для гульняў і г. д. Мы звярнуліся да галоўнага архітэктара "Мінскпраекта" Уладзіміра Тарноўскага па больш падрабязную інфармацыю.

— Уладзімір Мікалаевіч, адкуль узнікла ідэя будаўніцтва гіпермаркета і на каго ён будзе разлічаны?

— Гіпермаркет — гэта новы лад жыцця. Ён прызначаны найперш для людзей з аўтамабілямі. Такія магазіны ёсць у многіх краінах — той жа Польшчы, Германіі. Яны выдатна сябе зарэкамендавалі. Гандаль у іх вядзецца як у розніцу, так і оптам. Велізарны тавараабарот дазваляе абысціся без гандлёвай надбаўкі, з-за чаго цэны на прамысловыя тавары ніжэйшыя на 20—30 працэнтаў. Гэта будзе гандлёвая кропка, дзе можна будзе рабіць пакупкі на тыдзень, набываючы ўсё самае неабходнае.

Будаўніцтва плануецца распачаць вясной будучага года, узвесці ж будынак можна за 8—9 месяцаў, а пры належных тэмпах фінансавання — і да лета.

У перспектыве магчымае стварэнне цэлай сеткі гіпермаркетаў — у сталіцы і абласных цэнтрах.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**



МІЖНАРОДНЫЯ ЗНОСІНЫ

## Марцін ПЕЛЕД-ФЛЕКС:

# «БЕЛАРУСЬ І ІЗРАІЛЬ ЗАЦІКАЎЛЕНЫ Ў ПАШЫРЭННІ СУВЯЗЕЙ»

**Гутарка з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Ізраіля ў Беларусі Марцінам ПЕЛЕД-ФЛЕКСАМ.**

**— Пан Пасол! З моманту вашага ўступлення на пасаду прайшло зусім нямнога часу. Раскажыце, калі ласка, як вы расцэньваеце беларуска-ізраільскія адносіны. Наколькі паспяхова, на вашу думку, рэалізуюцца дагаворанасці, дасягнутыя паміж нашымі дзяржавамі!**

— Супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Ізраілем, як мне ўяўляецца, будуецца на станоўчай аснове. Таму ў нашых дзяржаў ёсць усе перадумовы, каб узровень адпаведных эканамічных, палітычных і культурных адносін стаў вышэйшым. Пацвярджэнне таму — пастаянна ўзрастаючая цікавасць ізраільскіх бізнесменаў да беларускага рынку і з боку дзелавых людзей з Беларусі да сваіх калег у Ізраілі. А падобныя кантакты заўсёды павінны насіць узаемны характар.

У прыватнасці, вытворцы і бізнесмены Ізраіля выказваюць зацікаўленасць у стварэнні ў Беларусі паўнацэннай маркетынгавай сеткі, якая садзейнічала б станаўленню эканомікі Беларусі. Гэта не толькі дапамагло б знаёмству беларускіх пакупнікоў са спажывецкімі таварамі і сельскагаспадарчай прадукцыяй з Ізраіля, але і рухала б наперад высокатэхналагічную навукаёмістую прадукцыю, неабходную для развіцця інфраструктуры любой краіны. У гэтай галіне, напрыклад, Ізраіль гатовы прапанаваць тэлекамунікацыйныя сістэмы сусветнага ўзроўню.

У сваю чаргу, на рынку Ізраіля з належнай увагай ставяцца да прадукцыі хімічных і нафтахімічных прадпрыемстваў Беларусі. Ізраільцян задавальняе досыць высокі ўзровень якасці аптычнага абсталявання, якое выпускаецца ў вашай рэспубліцы. Як для любога пасла, адна з асноўных задач, што стаяць перада мной як кіраўніком дыпламатычнай місіі, гэта садзейнічаць павелічэнню экспарту прадукцыі сваёй краіны. Разам з тым, мне знаёмы цэлы шэраг ізраільскіх фірм, якія зацікаўлены ў прадукцыйных кантактах у Беларусі.

У гэтых умовах паказчык тавараабароту паміж нашымі краінамі — 7,5 мільёна долараў ЗША ў мінулым годзе можа паказацца не такім значным, як хацелася б. Аднак заўважу: перспектывы развіцця нашых адносін даволі аптымістычныя.

Пацвярджэннем таму могуць служыць праекты міжурадавых пагадненняў аб абароне інвестыцый і аб тым, каб пазбегнуць двайнога падаткаабкладання, якія пасля іх падпісання змогуць адыграць важную ролю ў паглыбленні двухбаковых сувязей.

**— Якія асаблівасці ў развіцці нашых дзяржаў варта ўлічваць для падтрымання плённага дыялога!**

— Асаблівасць у тым, што большая частка вытворчасці Ізраіля ў апошнія дзесяць гадоў была прыватызавана. З гэтай акалічнасцю я схільны напрамую ўвязваць эканамічны пад'ём у Ізраілі. У данай сітуацыі я не маю права аддаваць бізнесменам якія-небудзь дырэктывы, дыктаваць цэны... Адстойваючы інтарэсы сваёй дзяржавы, якія заключаюцца ў павелічэнні тавараабароту, магу толькі дапамагчы сустрэцца зацікаўленым людзям, спрыяць наладжванню прамых кантактаў. Магу нешта падказаць, недзе "падштурхнуць". Але пры гэтым сама здзелка ці кантракт заключаюцца непасрэдна паміж бізнесменамі, дыпламатыя ў даным выпадку адступае на другі план.

**— Як вы расцэньваеце адносіны да яўрэяў у Беларусі!**

— Я добра знаёмы з жыццём яўрэяў у Беларусі і не толькі ў апошнія гады. Магу сцвярджаць, што ў рэспубліцы не існуе так званага "яўрэйскага пытання". Ёсць праблема людзей, якія прытрымліваюцца антысеміцкіх настрояў.

Адказваючы на данае пытанне, не лішнім будзе ўспомніць і гісторыю. Беларусь адносіцца да ліку нямногіх дзяржаў Усходняй Еўропы, дзе значнай колькасці яўрэяў у гады мінулай вайны ўдалося ўратавацца ад фашыстаў, якія праводзілі яўрэйскія пагромы. Беларусы дапамагалі яўрэйскаму насельніцтву ў час другой сусветнай вайны. Партызанскія атрады прымалі ў свае рады яўрэяў, якія змагаліся разам супраць фашыстаў. Толькі з гета ў Мінску ўдалося вырвацца больш чым 10 тысячам яўрэяў. Зразумела, што людзі яўрэйскай нацыянальнасці не змаглі б гэтага зрабіць без дапамогі беларусаў. Рызыкуючы жыццём, яны прадастаўлялі яўрэям прытулак і ставіліся да іх добра, міласэрна і з павагай.

Пераканаўся, што беларускія ўлады неабыякавыя да міжнацыянальных адносін, робяць упэўненыя крокі для прадухілення канфліктных сітуацый.

МІНСК, ЗАХАРАВА 28. ДОМ ДРУЖБЫ

Арсен ВАНІЦКІ

# АДЦЕННІ ЖЫЦЦЯ

***Урыўкі з главы «У імя будучага»***

Да паразумення вядзе двухбаковы шлях. Добрыя справы не робяцца без узаемнасці. Каго ж і чаму вабіць сёння Беларусь? Сустрэчы з грамадскасцю іншых краін амаль заўжды пакідаюць добрыя пачуцці. Людзі прыязджаюць да нас з жаданнем пазнаць народ, яго лад жыцця, звычаі. Многія маюць патрэбу ў супрацоўніцтве. Сябры падкрэсліваюць тыя здабыткі, якія мы, на шчасце, маем, а ў іх краінах ужо страчаны: жыць не толькі для сябе, але і на карысць іншых. Заўжды заўважаецца пачуццё інтэрнацыяналізму, павагі да нацыянальных культур, духоўных асаблівасцей.

*Нядаўна* давялося азнаёміцца з прыемнымі для нас вынікамі сацыяльнага апытання жыхароў Украіны аб іх адносінах да ладу жыцця беларусаў і народаў іншых краін Еўропы. 70 працэнтаў апытаных аддалі перавагу беларускай народнай творчасці, 60 працэнтаў — стылю нашага жыцця, 83 працэнты — характару ўзаемаадносін беларусаў паміж сабой і з іншымі народамі. У адносінах да астатніх еўрапейскіх краін суадносныя паказчыкі склалі 35, 43, 33 працэнты.

Гэтыя арыенціры ў асноўным супадаюць з успрыманнем беларускага народа незлічонай колькасцю сяброў, якія вывучаюць і цэняць усё тое, што для нас даўно стала звыклым, родным і дарагім.

Падкрэсліваючы шчырасць, гасціннасць, добразычлівасць беларусаў, госці здзіўляюцца, што многія разумныя, працавітыя людзі — навукоўцы, педагогі, урачы — прадстаўнікі колаў нацыянальнай інтэлігенцыі жывуць не ў тых умовах, якіх вартыя. У мэтах выхавання той-сёй звяртае ўвагу дзяцей на бачную людскую бядноту.

Сяброўскія асабістыя адносіны склаліся з Рабочым саюзам самарыцян зямлі Шлезвіг-Гальштэйн. Адбылося гэта мабыць таму, што значныя традыцыі мае гэтая вядомая ў свеце дабрачынная арганізацыя, да таго ж добрыя сэрцы ў яе кіраўнікоў Клаўса Клінгнера, Хінрыха Фольштэта, Герда Рорса, Хорста Шутца, Лотара Анцэлуці. Чарнобыльскую праблему яны ўспрынялі як сваю і неадкладна арганізавалі прыезд на Беларусь бясконцых караванаў дабрачыннай дапамогі. Што маглі, тое і прывозілі, і гэта была важкая падтрымка многім людзям. Затым самарыцяне дапамаглі стварыць на базе Таварыства дружбы станцыі сацыяльнай дапамогі абяздоленым людзям, дзе на працягу пяці гадоў дапамагалі сотням адзінокіх мінчан.

Аднойчы Хінрых Фольштэт папрасіў прыняць сястру былога германскага салдата Ганса Мюлера, які загінуў пад Баранавічамі. Пры гэтым ён прыслаў вайсковую міліметроўку той пары, па якой арыентаваліся войскі вермахта, якія тады ўжо адступалі. Якраз у ваколіцах вёскі Грабаўцы каля аэрадрома і мелася адмеціна, дзе загінуў, па словах уцалелага аднапалчаніна, той салдат. Пажадана было знайсці людзей, сведак таго, што адбылося ля Баранавіч у ноч вызвалення горада — з 6 на 7 ліпеня 1944 года. Спадзяваліся, што гэтая задача вырашальная. Так і атрымалася. Пасля перамоў са старэйшымі людзьмі вёскі адзін з яе жыхароў, на жаль, ужо прыкаваны да ложка, расказаў, што ў тую ноч група вермахтаўцаў была абстраляна знянацку салдатамі вызваленчай арміі. Пры гэтым чатыры чужаземцы засталіся навечна ў Грабаўцах і былі пахаваны каля капліцы, якая стаяла ў канцы вёскі, якраз там, дзе дарогі сыходзяцца ў адну вясковую вуліцу. Нялёгкай была сустрэча фрау Мюлер з мясцінамі, дзе пралёг апошні шлях яе брата. Тым не менш, гэта адбылося і пакінула ў сэрцах нямецкіх сяброў не толькі смутак аб былым, але і пачуццё ўдзячнасці за тое, што нашы людзі неабыякавыя да ахвяраў другой сусветнай вайны, з якога боку яны ні былі б. Салдаты гінуць не па сваёй волі.

Самарыцяне робяць дабрачынную справу бескарысліва, ад чыстага сэрца, не шкадуючы свайго вольнага часу, нягледзячы на цяжкасці шматдзённых пераездаў і штучныя мытныя перашкоды. Да нас яны прыязджаюць у час адпачынку. У тым ліку і Клаўс Клінгнер, які займаў высокую пасаду міністра юстыцыі гэтай зямлі. Ад сустрэч з ім заўжды заставалася прыемнае ўражанне, кранала яго разважлівасць, павага да людзей, жаданне выказаць добрыя словы і ўвогуле рабіць дабро людзям. Аднойчы мы доўга не маглі знайсці яго сярод іншых самарыцян, калі сустракалі чарговы канвой каля вёскі Калпеніца, пад тымі ж Баранавічамі. Ён нічым не вылучаўся, быў апрануты ва уніформу самарыцян і сядзеў за рулём вялізнага грузавіка-фуры, як і ўсе шафёры. Ніхто і падумаць не мог, што ён міністр юстыцыі. Міністры бываюць розныя.

Вельмі добрыя стасункі склаліся ў нас з Хільтруд Шродэр у той час, калі яна была жонкай цяперашняга канцлера Германіі. Справа ў тым, што гэтая няўрымслівая жанчына стварыла фонд "Дзецям Чарнобыля", аб'яднала намаганні жыхароў Ніжняй Саксоніі на дапамогу пацярпелым ад радыяцыйнага забруджання. За справу яна ўзялася разам з Палатай урачоў Ніжняй Саксоніі, такімі вядомымі спецыялістамі, як прафесар Хая Экель, Фрыдрых Дэгенхарт, Маргіта Гайгер, Енэ Петэрфрэнз, Ёрг Сіманоўскі. Фонд забяспечыў пастаўку ультрагукавых сканераў у лячэбныя ўстановы Мінска і амаль усіх раёнаў рэспублікі. Дзякуючы гэтай энергічнай жанчыне, як і іншым сябрам, сотні нашых урачоў авалодалі метадамі ультрагукавай дыягностыкі захворванняў, наладзілі прафесійныя сувязі з медыцынскімі ўстановамі Германіі. У 108 клініках зараз працуе сучасная ультрагукавая апаратура.

Кантакты з прадстаўнікамі фонду садзейнічалі пашырэнню сувязей з грамадскасцю гэтага рэгіёна Германіі не толькі ў медыцынскіх мэтах. Усталяваліся асабістыя сувязі паміж людзьмі, і нават былі арганізаваны Дні культуры Беларусі, у час якіх у перыядычным друку было надрукавана каля 50 станоўчых артыкулаў, якія тычыліся не толькі здабыткаў нашага мастацтва, але і іншых важных з'яў жыцця беларускага народа. Дарэчы, фрау Шродэр сама напісала кнігу аб сваіх уражаннях падчас паездак па Расіі, Украіне, Беларусі. Яе змест яскрава сведчыць, што аўтар кнігі ставіцца да нашага народа з вялікай павагай, нават большай, чым да нашых суседзяў.

Добрыя словы знайшліся для нашага грамадскага аб'яднання: "Таварыства дружбы, — піша яна, — у якасці штатнага цэнтра апякае замежныя кантакты ніжэй дыпламатычнага ўзроўню. Яго супрацоўнікі дапамагаюць у час арганізацыі паездак, падтрымліваюць нас пры размеркаванні прыбораў і медыкаментаў, дасканала ведаюць, каму трэба пазваніць, калі часам узнікаюць цяжкасці. Таварыства дружбы практычна з'яўляецца нашай даверанай асобай у Мінску. Гэта атрымала шырокі розгалас: калі мы прыязджаем у гэты горад, кожны раз многія сем'і ўжо чакаюць там, каб сустрэцца з намі і выказаць свае праблемы".

Заўсёды прыносіць задавальненне адчуванне, што ты патрэбны некаму. Штодзень да нас прыходзяць людзі. У кожнага свае пытанні. Найбольш просяць параіць, як лепш зрабіць тую ці іншую справу, наладзіць патрэбныя кантакты. Многія творцы жадаюць быць больш вядомымі ў свеце, просяць накіраваць іх у замежныя краіны, наладзіць выставы і, канешне ж, дапамагчы мець пры гэтым хаця б невялікі заробак.

Звяртаюцца людзі, абставіны жыцця якіх прымусілі шукаць дапамогі. Адлягае ад сэрца, калі ёсць магчымасць гэта зрабіць, надоўга застаецца смутак, калі не атрымліваецца. Многага каштуюць словы Максіма Танка, якія засталіся ў яго дзённіку: "Праз наша Таварыства дружбы дастаў сякія-такія лекі ад сэрца. Можа з іх дапамогай удасца прадоўжыць свае зямныя дні". Не меншае задавальненне прыходзіць, калі з'яўляецца магчымасць дапамагчы інвалідам, дзецям-сіротам, цяжкахворым людзям.

Шэраг праграм дапамогі пацярпелым ад радыяцыйнага забруджання, інвалідам-"афганцам", іншым людзям, якія апынуліся ў цяжкіх абставінах, мы змаглі ажыццявіць разам са сваімі партнёрамі з Германіі, Аўстрыі, Італіі, Францыі, ЗША, Японіі, Польшчы і іншых краін. Па меры магчымасці дапамагаем забяспечваць медыцынскія ўстановы рэспублікі сучасным абсталяваннем, лекамі, арганізуем павышэнне кваліфікацыі медыцынскага персаналу, дастаўляем адзенне і харчаванне, наладжваем аздараўленне дзяцей.

З грамадскімі арганізацыямі ЗША адносіны складваліся неадназначна і часта зусім няпроста. Нядобры асадак застаўся надоўга ад сустрэчы з маладымі палітыкамі, якія жадалі мэтанакіравана акцэнтаваць увагу на балючых пытаннях, з іх пункту гледжання, нашага жыцця. Каму ж гэта даспадобы? Павучаць любяць многія, а вось быць карысным дарадцам умее не кожны. Людзі адмоўна рэагуюць таксама на лабізм некаторых прадстаўнікоў вялікіх дзяржаў. У той жа час знаёмства з былымі амерыканскімі салдатамі, якія сустрэліся напрыканцы вайны на Эльбе з салдатамі Савецкай Арміі, было такім жа шчырым, як і ў той далёкі ўжо час.

Найбольш поўна адчулі мы патрэбу ўзаемаразумення, калі ўсталяваліся кантакты з грамадскай арганізацыяй "Фрэндшып Форс" — "Сіла ў дружбе" са штата Мінесота.

*(Працяг будзе).*

Працяг.
Пачатак у №№ 25—26.



*Чарговая сустрэча доктара Карла Фрыдрыха Фая з беларускімі дзецьмі.*



*Былы капітан вермахта Кіміх прывёз у Беларусь карты мінных палёў пад Оршай 1943 года.*

ПІСЬМЕННІЦКІЯ ДАЧЫНЕННІ

# «ДУХОЎНЫМ МОРАМ, ДАЎГАВЫ ПАВЕТРАМ»

Яніс Райніс у народнай песні "Ветрык, вей!", нібы звяртаючыся да суседзяў-крывічоў, пісаў:

**Вы клікалі мяне — і вось я тут,**
**Прачнуўся ветрык і пагнаў мой човен**
**Духоўным морам, Даўгавы паветрам;**
**Я ўсцешаны, што ўспомнілі мяне вы, —**
**Што запрасілі, як свайго, мяне**
**На свята вашай радасці вялікай.**
*(Пераклад Рыгора Барадуліна).*

Свята радасці — гэта нашае духоўнае спарадненне з латышскай культурай, магчымасць яшчэ і яшчэ раз згадаць імёны тых, каму абавязаны літаратурнай чыннасцю, перакладчыцкай дзейнасцю, незазашмальцаваным у ідэалагічных застолях шчырым сяброўствам.

Свята радасці можа быць і ў сваце памяці. Споўнілася, да прыкладу, 100 гадоў з дня смерці ў Віцебску маці Райніса Дарты Плiекшанэ з роду Грыкоўскіх. Гэта пра яе радавод сын пісаў:

**Па паданню продкі маці —**
**З вольнае Літвы баяры,**
**Што прыйшлі ў часіны мору,**
**Як збязлюдзіў край зэмгальскі.**
*(Пераклад Рыгора Барадуліна).*

І цяпер на Гарадзеншчыне грэчку называюць грыкаю... Ёсць і іншыя легенды аб паходжанні продкаў нашага магутнага сябра-творцы Яніса Райніса. Але ён сам прызнаваўся, што маці навучыла яго разумець беларускія песні, а яшчэ начны старож, "дзядзька" маленькага Жаныня "гуд Нядзвецкі".

100-годдзе памяці пра маці Райніса для нас — дата асабліва важная, бо вечны спачын знайшла яна на беларускай зямлі. А ў Віцебск прыехала да дачкі Доры, якая была замужам за Петэрам Стучкам, "палітычным злачынцам" царскай жандармерыі.

Пра факт пахавання Дарты Плiекшанэ на лютэранскіх могілках у Віцебску я дачуўся ад латышскага пісьменніка Яніса Ніедрэ, аўтара гістарычнага рамана пра П. Стучку. У 1979 годзе паведаміў аб гэтым у друку. І толькі ў 1991 годзе


*Маці Райніса Дарта ПЛІЕКШАНЭ.*

пры ўваходзе на Стара-Сямёнаўскія могілкі ў Віцебску быў устаноўлены памятны знак у гонар маці Райніса. І сам ён быў у Віцебску ў 1926 годзе, калі ехаў у Мінск і калі вяртаўся з акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу. Аб гэтым нагадваюць матэрыялы ў памяшканні нядзельнай латышскай школы пры Генеральным консульстве Латвійскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь.

Сёлета спаўняецца 70 гадоў з дня смерці народнага паэта Латвіі (12 верасня). Можна было б у гонар маці і сына правесці сумесна з Саюзам пісьменнікаў Латвіі Дні паэзіі ў культурнай прасторы Дзвіны — Даўгавы, устанавіць на станцыі Бігосава, дзе спыняўся Райніс у 1926 годзе, мемарыяльную дошку...

Дакладна вядома, што ў Верхнядзвінску, недалёка ад таго самага Бігосава, стараннямі дырэктара Цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Валянціны Крук у ліпені пачне экспанавацца выстава "Вечна жыць вам, Купала і Райніс!". У горадзе пройдзе свята Дзвіны — Даўгавы, на якое запрошаны госці з Краславы, з Генеральнага консульства ў Віцебску. Закончыцца купальскі дзень ў вёсцы Цінкаўцы, што на беразе Дзвіны, у "хатцы бабкі Параскі". Гэты музей-сядзіба на старажытным шляху "з грэкаў у варагі" нядаўна атрымаў званне народнага. Я 20 гадоў збіраў экспанаты гісторыка-культурнай спадчыны Прыдзвіння. Асаблівa цікава зараз углядацца ў "помнікі працы" нашых продкаў школьнікам, адчуваць у музеі, што іх рэгіён можа ўпісацца ў кантэкст сусветнай культуры. А Прыдзвінне асаблівае тым, што гэта латышска-беларускае сумежжа. І купала-райнісаўская выстава якраз і нагадвае аб выгадзе добрасуседства.

24 траўня споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння прыгаданага мною Яніса Ніедрэ — празаіка, фальклáрыста. Сярод гістарычных раманаў гэтага пісьменніка асабліва цікавы для нас "І вятры гуляюць на папялішчы..." — пра барацьбу латгалаў і палачанаў з крыжакамі ў XIII стагоддзі. Твор — своеасаблівае "люстэрка" рамана Леаніда Дайнекі "Меч князя Вячкі".


*Янка КУПАЛА і Яніс НІЕДРЭ ў Сігулдзе. 16 чэрвеня 1941 г. фота з архіва Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.*

У чэрвені 1941 года Яніс Ніедрэ знаёміў Янку Купалу, госця І з'езда латышскіх пісьменнікаў, з Рыгай, Юрмалай, Сігулдай, пакінуў успаміны пра сябра Райніса —народнага паэта Беларусі.

Зараз асабістыя знаёмствы між латышскімі і беларускімі літаратарамі не маюць ранейшага накалу, сустрэчы рэдкія і амаль што выпадковыя. Быў госцем Мінска Улдыс Бэрзыньш (яму ў траўні споўнілася 55 гадоў), летась прыязджаў Яніс Балтвілк (у яго 24 ліпеня — 55-годдзе). 30 чэрвеня — 60-гадовы юбілей у Яніса Пэтэрса. Для тых, хто хоча павіншаваць іх, паведамляю адрас Саюза пісьменнікаў Латвіі: Куршу іела, 24. Рыга 1426. Тэлефон сакратарыята: 8-10371-7-7555-180. Узначальвае творчую сябрыну спадар Валдыс Румнiекс.

"Почэстлівым прыяцелям нашым, сумленным і мілым" пісалі ў свой час палачане ў граматах, сатвараючы вечны мір і шукаючы выгаду ў добразычлівых суседскіх стасунках. Будзем спадзявацца і мы на творчыя ўзаемадачыненні Балтыі і Беларусі.

**Сяргей ПАНІЗЬНІК,**
**старшыня таварыства "Беларусь—Латвія".**

СПАДЧЫНА

# ДАРОГА ДА ХРАМА


Спаса-Праабражэнская царква ў Заслаўі.

● **Пётр ПАБОКА.**

Колькі войнаў прайшло праз беларускую зямлю, колькі памятных пабудоў нашых продкаў знішчана! Засталіся адзінкі, і тыя, што не былі да канца разбураны ворагам, здараецца, дабіваем самі. Напрыклад, каму замінаў гістарычны будынак Спаса-Праабражэнскай царквы ў Заслаўі, што яго трэба было ўжо ў нашы дні, у 1996 годзе, падпаліць? Гавораць, там былі нейкія сатаністы, якія нават пакінулі на абгарэлых сценах свае знакі. Усё можа быць, але нават сатаністы, калі такія існуюць, — не прышэльцы з іншай планеты. І справа тут не толькі ў веры ці бязвер'і. Як магла падняцца рука на тое, што захоўвае памяць аб нашых продках ужо чатыры стагоддзі!

Заслаўе ў летапісах, відаць, не выпадкова называлі Ізяслаўем. Згодна з паданнямі, яно пабудавана было ў канцы X стагоддзя кіеўскім князем Уладзімірам Святаславічам і аддадзена жонцы Рагнедзе Рагвалодаўне і сыну Ізяславу. Гэта быў цэнтр удзельнага Ізяслаўскага княства, у тутэйшай друкарні выдадзена Біблія Сымона Буднага. Магіла Рагнеды і валы ўмацавання і сёння складаюць адзіны гісторыка-археалагічны запаведнік, важны элемент якога — Спаса-Праабражэнская царкава, пабудаваная ў канцы XVI — пачатку XVII стагоддзяў, святыня, на якую трэба было б маліцца не толькі вернікам, але і ўсім, хто цэніць нацыянальную гісторыю і культуру. Не паліць, а ўзнімаць з руін і ганарыцца сваімі помнікамі трэба.

На шчасце, такія рыцары ёсць. І перш за ўсё, відаць, таму, што да справы адраджэння страчанай у многім гістарычнай памяці неабыякава ставіцца дзяржава. Скажам, у 1991 годзе пры Міністэрстве культуры Беларусі было створана Галоўнае ўпраўленне, якое затымператворана ў Камітэт па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў, падобнага да якога да гэтага часу няма нават у Расіі. Наша небагатая сёння дзяржава знаходзіць, хаця невялікія пакуль, сродкі на аднаўленне гістарычных каштоўнасцей. І ў гэтым годзе, калі прадугледжваецца завяршыць рэстаўрацыю Спаса-Праабражэнскай царквы, выдзелена 1 мільярд 120 мільёнаў рублёў. Настаяцель царквы ў Заслаўі Мікалай Мазгоў, які ўступіў у сан у 1990 годзе і перажыў пажар, не застаўся сам-насам з яго вынікамі. З Мінска часта наведваюцца прадстаўнікі царквы і Міністэрства культуры, з Маладзечна — дырэктар будаўніча-рэстаўрацыйнай фірмы "Марра" Міхаіл Новікаў.

— Гэта біблейскае слова такое, — тлумачыць ён назву свайго вытворчага прадпрыемства, — а значыць яно "горка". Яно і на самай справе горка, калі бачыш разбуранае, з якога трэба ўзвесці храм.

Цікавы чалавек Міхаіл Прохаравіч. Яшчэ да вайны скончыў педтэхнікум, усё жыццё працаваў у школе, а на пенсіі заняўся рэстаўрацыяй даўніны. Першай па парадзе былога старшыні калгаса "Светлы шлях" Маладзечанскага раёна Героя Сацыялістычнай Працы Уладзіміра Калачыка ўзнавіў за год цэрквы ў Засквічах і Дубраве таго ж Маладзечанскага, у Куранцы і Мільчы Вілейскага раёнаў, касцёл у Радашковічах. Пабудаваны новыя храмы ў Чысці і Аляхновічах, прычым, у Аляхновічах, напрыклад, сам і праектаваў. Створаныя пры яго ўдзеле музеі вызваленчага руху пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага ў Плябані і Максіма Багдановіча ў Ракуцёўшчыне Маладзечанскага раёна. Цяпер гэты чалавек, якому ідзе ўжо, між іншым, семдзесят восьмы год, займаецца рэстаўрацыяй шасці аб'ектаў, сярод якіх і Спаса-


*Дырэктар будаўніча-рэстаўрацыйнай фірмы "Марра" Міхаіл НОВІКАЎ — галоўны рэстаўратар Спаса-Праабражэнскай царквы.*


*У храме.*



ПАМЯЦЬ

# СВЕДЧАННІ З 1941-га

У Гродне пабачыла свет другая кніга ўспамінаў тых, хто абараняў прынёманскі край ад фашыстаў у першыя дні Вялікай Айчыннай, пад назвай "В июне 1941 г." З ліку дакументальных выданняў аб мінулай вайне гэтыя ўспаміны, бадай, самыя ўражлівыя, самыя хвалюючыя. Аб мужнасці пагранічнікаў і іншых часцей Чырвонай Арміі і роспачы нашых, часам безабаронных салдат, на якіх абрынулася гітлераўская навала, гераізме воінаў-акружэнцаў шчыра і праўдзіва, без прыхарошвання расказваюць чырвонаармейцы і іх камандзіры, якім наканавана было змагацца з ворагам у чэрвеньскія дні. Вялікую цікавасць уяўляюць прысланыя апошнім часам лісты ветэранаў і сваякоў загінуўшых герояў, а таксама матэрыялы з асабістых архіваў мясцовых краязнаўцаў.

У якасці дадатку кніга змяшчае спісы ўдзельнікаў першых баёў на Гродзеншчыне, тых, хто прапаў без вестак, а таксама фотаздымкі многіх байцоў.

Як нарадзілася гэта кніга? Найперш заслуга ў тым гродзенскай настаўніцы Іраіды Макеевай. Больш за паўстагоддзя аддала яна пошуку загінуўшых і жывых салдат 1941 года. Дзякуючы нястомнай працы педагога, родным і блізкім вернуты з небыцця звыш 100 воінаў, што лічыліся без вестак прапаўшымі. Устаноўлена нямала невядомых магіл, на якіх з'явіліся помнікі. Вось ужо на працягу многіх гадоў у горадзе над Нёманам па ініцыятыве няўрымслівай жанчыны адбываюцца сустрэчы былых аднапалчан 3-й і 10-й армій, якія ў чэрвені 41-га абаранялі заходнія рубяжы Айчыны.

На падставе сабранага І. Макеевай матэрыялу і выдадзены дзве унікальныя кнігі. А рэдагаваў іх і ўзяўся адказваць за выпуск гродзенскі журналіст Рычард Карачун. Так што гэта выданне можна яшчэ назваць двухтомнікам Іраіды і Рычарда.

І яшчэ адна заўвага. Многім сёння вядомы вялікі кошт друкаванай прадукцыі. Вось чаму варта падкрэсліць, што выданне абедзвюх кніг ажыццёўлена дзякуючы падтрымцы Гродзенскага аблвыканкама і яго старшыні Аляксандра Дубко.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ.**

Праабражэнская царква ў Заслаўі. За сваю багаўгодную дзейнасць Міхаіл Прохаравіч узнагароджаны ордэнамі Данііла Маскоўскага і Святога Уладзіміра III ступені, граматамі.

Вядома, фірма "Марра" — не адзін Міхаіл Новікаў, але ён душа ўсёй справы, яе арганізатар. Было ў фірме 140 чалавек, зараз 40, таму што для ўсіх сёння няма працы. Спатрэбіцца людзі — Міхаіл Прохаравіч зноў набярэ поўны штат. Але справа стаяць не будзе. Як не стаяць без людзей храмы.

— Богаслужэнне ў царкве мы аднавілі ўжо праз тыдзень пасля пажару, — гаворыць айцец Мікалай. — Нягледзячы на тое, што за каўнер яшчэ сыпаліся іней і сажа.

Да Спаса-Праабражэнскай царквы ў Заслаўі, якая пакуль у рыштаваннях рэстаўрацыі, сцякаюцца экскурсанты з розных куткоў рэспублікі. Вось і сёння дзень толькі пачаўся, а каля храма тоўпяцца віхрастыя хлапчукі і дзяўчынкі з бантамі — прыехалі вучні 113-й і 207-й сярэдніх школ Мінска. Айцец Мікалай спяшаецца прыняць юную паству.

Золата, гавораць, у агні не гарыць. Як не гарыць і памяць народная. Асабліва, калі ёсць людзі, якія служаць яе аднаўленню.



Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БелТА.

*Пры сустрэчы начальніку аддзела рэспубліканскага Камітэта рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў Аляксандру ПЯНЬКЕВІЧУ (справа) ёсць пра што пагаварыць з дырэктарам будаўніча-рэстаўрацыйнай фірмы "Марра" Міхаілам НОВІКАВЫМ.*

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ



## Лісты Наталлі ВІШНЕЎСКАЙ да Сяргея ГРАХОЎСКАГА

# «Я НЕ ПЛАКАЛА, БО НЕ ЎМЕЮ...»

**1 ліпеня 1981 г.**

"Крыўдна стала за Нямігу. Няўжо не маглі захаваць гістарычную рачулку? Адзець яе ў граніт, паставіць памятны знак. Шкада...

Нарэшце даведніка не клапаціцеся. Што ён мне дасць? Старых памятаю і так, а новых усё роўна не ведаю. А тое, што я не папала ў яго, дык гэта ж справядліва. Што мы там такое зрабілі, каб красавацца на яго старонках? Трэба было пісаць. А вось абставіны зламалі. Доўгія гады работа з ранку да ночы, адарванасць ад літаратурнага жыцця, 1952 год (Н. Вішнеўская праходзіла па "Ленинградскому делу". — **Л. М.**) і інш. Усё гэта не спрыяла творчаму настрою. Да таго ж гадоў 20 з лішкам таму назад наш агульны прыяцель З. (А. Звонак. — **Л. М.**) сказаў, што пачынаць мне ўжо позна, і зусім адбіў ахвоту брацца за пяро. Так вось і сталася. Калі з'явілася шмат часу, пачала зрэдку крэмзаць паперу, але гэта толькі для сябе. Так што няма чаго і крыўдзіцца..."

**16 снежня 1981 г.**

"З інтарэсам прачытала, што хоць і сціпла, а ўсё ж успамінаюць нашых карыфеяў. Я думала, што даўно яны ў забыцці. І ці даўно мяне тут пыталі "с пристрастием" аб сувязі маёй з Чаротам, Зарэцкім, Вольным? Як час змяняе ўсё. Даволі часта мільгае па тэлевізары Мінск, прыгожы, казачны, але не мой. Яшчэ Броўка гаварыў, што ён страшна абрусеў. А дзе ж намячаецца яго музей? Фу ты, "музей"! Не хочацца думаць, што яго няма. А як там жывыя — Скрыган, Пфляўмбаўм, яе палавіна? Ці не ведаеце чаго-небудзь пра жонак Зарэцкага, Шукайлы?.."

**10 кастрычніка 1983 г.**

"А што да Л. Б. (Лукаш Бэндэ? — **Л. М.**), то не звяртайце ўвагі. Мне дужа непрыемна, што з-за мяне між Вамі прабегла чорная кошка. Але што я магу зрабіць? Нейкія афрыканскія страсці, рэўнасць, нічым не апраўданая.

Прайшло столькі гадоў, чаго ж цяпер грызці локці ды кідацца на ўсіх?

Ён жа даўно абжыўся, устаяваў свой побыт, мае прэстыжную жонку. Чаго ж яшчэ трэба?

Я нічым не хачу яго чарніць, крый Божа, але мабыць у яго стаў зусім нязносны характар.

А быў жа такі вясёлы, харошы таварыш (? — **Л. М.**)".

**23 чэрвеня 1984 г.**

"Я не ведала, што Вашым шэфам была цёця Уладзя. Харошая яна была жанчына, з шырокім кругаглядам, без цені мяшчанства і з сапраўды добрым сэрцам.

А мяне цягнуў Колас, якому я таксама ўдзячная ўсё жыццё і якога так і не аддзячыла..."

**15 ліпеня 1984 г.**

"Як добра выглядае на сваё 80 Адась (Адам Русак. — **Л. М.**). Успамінаю, як хлапчуком забягаў да нас у Пясочнім (цяпер Капыльскі раён Мінскай вобласці. — **Л. М.**) і мая мама, прадракаючы яму дарогу "ў людзі", вучыла яго, як трэба трымаць відэлец і нож, тлумачыла яму незнаёмыя словы, сэнс якіх ён запісваў. Слаўнае было цыганё. Як бяжыць час!

А вось Алесь (А. Звонак. — **Л. М.**) мне зусім не спадабаўся. Твар такі, нібы ён злы на ўвесь свет..."

**1 лістапада 1984 г.**

"З нейкаю трывогаю чакаю, як пройдзе перадача пра Янучку. Хацелася б усё гладка сайшло. Гэта больш мая не загойваецца, а чым старэй — тым бальней. Буду чакаць Вашай вестачкі...

Некалі Анатоль Вольны гаварыў: "Не калупайся ў носе — кроў пацячэ". Я з усіх сіл стараюся, але часам здаю, як, напрыклад, сёння. Ноч не спала напралёт, і так не хочацца жыць. Наплываюць нейкія крыўды, непатрэбныя ўспаміны. Разумею, што гэта старасць, што трэба з гэтым змагацца, але так хочацца прытуліцца да роднага пляча!..."

**30 сакавіка 1986 г.**

"Так і было" (С. Грахоўскі. "Так і было". Мн., 1986. — **Л. М.**) чытаецца лёгка, цікава, але застаецца цяжкі смутак па тых, каго так рана прыбрала зямля.

Я пакуль што выхапіла з усяго ўспаміны пра Броўку, Дубоўку, Куляшова, Пушчу, Пальчэўскага.

Ваша кніжка — светлы Рэквіем адышоўшым.

А я таксама ўспамінаю высокага, хударлявага, засцянчывого (так у лісце. — **Л. М.**) хлапчука ў доўгім паліто. Гэта Вы засталіся ў маёй памяці такім, калі з'явіліся на маладнякоўскім небасхіле. Эх, дзе нашы 17"?

**18 жніўня 1986 г.**

"Некалі ўсё баялася, ці дацягну да 60, потым да 70, 75, 80. А цяпер замахнулася на 90! Да чаго і Вас заклікаю.

Сёння быў такі чароўны дзень, што толькі жыць ды жыць..."

**15 красавіка 1987 г.**

"Пачала чытаць (прысланую С. Грахоўскім кнігу. Магчыма "Снягі". — **Л. М.**), расхвалявалася. Усё гэта ўздыбіла, усё ў памяці і прымусіла перажыць усё нанава. У мяне ж гэтая паласа няшчасця пачалася ў 1929 годзе і цягнулася да 53-га. Усе гады "пад калпаком". Дзе ж тут быць здароўю!

У Барыса (Б. Мікуліча. — **Л. М.**) мільганула ўскользь непрыглядная роль Самуйлёнка. Якою ж агіднаю яна была на самой справе. Ён жа ўвесь час круціўся каля Зв. (А. Звонака. — **Л. М.**). Як я яго папярэджвала, як асцерагала ад гэтага сяброўства. Да чаго ж ён быў непрыемным чалавекам!

Незразумелы мне і паводзіны Зарэцкага, пра якія піша Ш. (С. Шушкевіч. — **Л. М.**). Што гэта — хацеў дапамагчы ці ўгробіць? Колькі ўсяго незразумелага засталося!

Шчыра пагаравала аб Адасі. Уходзяць усе пагодкі. Я ж яго ведала яшчэ ў дзяцінстве. Забаўны быў цыган. Пазней падобны быў да масціта кампазітара ці дырыжора. А быў харошым музыкантам. Як далася яму гэтая музыка, адзін Бог ведае. Галадаваў страшэнна, пакуль вучыўся, а ўсё ж не кінуў вучобы. Хай зямля яму будзе пухам, харошы быў чалавек...

Скрыгану перадайце маю падзяку за памяць і добразычлівасць, пажадайце яму самага галоўнага — здароўя. А што да вершаў, то ці варта паявіліваць колькасць макулатуры. Хопіць і без мяне. Я дужа крытычна адношуся да сваёй пэцканіны..."

**20 жніўня 1988 г.**

"Зараз, калі ў нас мітынгуюць на плошчах розныя "сталіністы" ды проста фашысты, якія выйшлі днямі з лозунгамі "бей жидов", хочацца крыкам крычаць, каб дайшло да гэтых падонкаў усё тое, што давялося перажыць...

У нас тут дайшло да пабоішча, вось Вам і "гласность"!..."

**30 студзеня 1989 г.**

"Пачалося з таго, што культпроп ЦК, з якім я была ў добрых адносінах, узяў мяне за горла, каб адмовілася ад Дудара. Галавач надаўміў пайсці да заг[адчыка] камісіі парт.кантролю (не помню ўжо прозвішча). Я вечарам пабегла ў яго палац, не сустрэла ніводнага чалавека, уварвалася да яго ў кабінет, расказала ўсё. Ён супакоіў, назаўтра даў вымову культпропу, а я з гэтым і засталася. Без грошай, без працы. Некаму ж тады было надаўміць, што трэба ісці ў пасудамыйкі, а не на культурную работу. Дудар галадаваў у Смаленску, але абурыўся, калі я прапанавала яму ісці на фізічную работу. Вось такія дурныя мы былі і галадавалі страшэнна.

Аднойчы, набраўшыся нахабства, я сунулася на радыё, дзе была вакантная пасада дыктара. Дырэктрыса, падобная на маленькую малпачку, страшна ўзрадавалася і адразу сунула мяне за пульт на перадачу. Вяла я з Новікавай. Сяк-так прайшло. Назаўтра прыйшла раніцай, а ў калідоры мяне стрэла тая самая дырэктрыса, замахала лапкамі і абвясціла: "Она уже приехала, выходит на работу". Ну мне стала зразумела, што тут чакаць няма чаго. Прозвішча маё прагучала мабыць як выстрал.

Зноў сядзелі галодныя. Маці паспрабавала ўладкавацца на гузікавую фабрыку. Далі парабіць толькі 2 дні і з прабачэннямі выперлі. Вось так.

У 37-м пасля мае адсідкі нечакана сустрэў мяне маладзенькі следчы турэмны і шапнуў, каб я хутчэй выязджала, бо рыхтуецца новая хваля арыштаў і мне тут ужо не здабраваць. Мы з мамай тады выехалі ў лясную глухамань на Украіну да цёткі, там нейкі час перажылі.

Вось колькі ўскалыхнулі Вашы "Снягі". Ды хіба ўсё апішаш. Мне не давялося перажыць усяго, што выпала на Вашу долю, але таксама хапіла, па самае горла. Адно "Ленинградское дело" чаго стоіла мне!..

Усё. Канца-краю не будзе..."

**Ліст не датаваны. Відавочна, 80-я гады.**

"Хачу ў Мінск і неяк яшчэ вырвуся, але ж гэта не мой Мінск. Разглядаю яго ў перадачах і не бачу ніводнага знаёмага кутка. І, прызнацца, сумую, нават па роднай Нямізе. Неяк так скроены чалавек, што яго цягне на старое папялішча. Але ж на старое, а тут усё прылізанае, новае, чужое. Хочацца пабываць на магілках блізкіх — Я. Коласа, П. Труса. Ён (П. Трус. — **Л. М.**), небарака, незадоўга перад смерцю наказваў мне, каб я ля яго магілы пасадзіла бярозку. Ён адчуваў, што нядоўгі яго век.

Калі мяне яшчэ помніць Мікола Хведаровіч, перадайце яму маё прывітанне і пажаданне трымацца як мага даўжэй.

Так, так, усе мы, аказваецца, ужо састарыліся і не агледзеліся, як жыццё ідзе на закат. Мала засталося, але будзем бадзёрымі да канца..."

**1 жніўня 1989 г.**

"Уважаемый Сергей Иванович. Сообщаю Вам печальное известие: 3 мая с. г. (в день рождения) умерла Наталья Вячеславовна. Умерла в больнице от острых язв желудка. Сообщаю Вам об этом по её просьбе.

С уважением Анатолий Васильевич (А. Іваноў — прыёмны сын Н. Вішнеўскай. — **Л. М.**).

**Падрыхтаваў Леанід МАРАКОЎ.**

Заканчэнне.

Пачатак у №№ 25—26.

ЗАМЕЖЖА

# БЕЛАРУСЫ Ў РАСІІ

## (Расійскай Федэрацыі)

### БАШКОРТАСТАН

У Рэспубліцы Башкортастан пражывае каля 25 тысяч беларусаў. У ліпені 1998 года створаны Рэспубліканскі нацыянальна-культурны цэнтр беларусаў Башкортастана. Галоўная яго мэта — захаванне і развіццё нацыянальнай культуры сярод беларусаў рэспублікі. Асноўная дзейнасць цэнтра засяроджваецца вакол сістэматычнай публікацыі матэрыялаў пра Беларусь у перыядычных выданнях Башкортастана, правядзення выстаў мастакоў Беларусі, стварэння беларускай бібліятэкі, набыцця твораў беларускіх мастакоў для карцінных галерэй у раённых цэнтрах, стварэння Дома рамёстваў. Найбольш актыўнымі дзеячамі цэнтра з'яўляюцца В. Бабенка, дырэктар Інфармацыйнага цэнтра пры філіяле Маскоўскага гуманітарнага інстытута славянскіх моваў, намеснік старшыні Дзяржсходу Башкортастана па нацыянальных пытаннях; А. Міхальчанка, выкладчыца беларускай мовы і літаратуры на кафедры беларускай мовы і літаратуры пры філіяле Маскоўскага гуманітарнага інстытута славянскіх моваў. Узначальвае цэнтр В. Рамановіч, былы дырэктар завода.

У дзвюх гімназіях цэнтра Іглінскага раёна Башкортастана ўведзена выкладанне беларускай мовы як няпрофільнай.

**Ніна ПЕТУХОВА.**

### КОМІ

У Рэспубліцы Комі жыве цяпер каля 27 тысяч беларусаў. Сярод іх — нашчадкі былых ахвяр "кулацкай ссылкі", палітычных рэпрэсій 30-х — 40-х гадоў. Але асноўная іх частка трапіла сюды ў пасляваенныя гады, калі разбуранай краіне патрэбны былі вугаль і нафта, газ і драўніна. Многа тут выпускнікоў былога Мінскага лесатэхнічнага інстытута. Яны працавалі на адказных пасадах у лясной прамысловасці, у леспрамгасах. Як і ўсюды, беларусы тут вельмі паважаныя людзі. Іх выбіраюць дэпутатамі, на розныя кіруючыя пасады. Гэта, напрыклад, генеральны дырэктар АТ "Аптгандаль" Г. Набокіх, намеснік міністра ўнутраных спраў В. Бабошын.

У наш складаны час, калі не кожны можа наведаць свой родны край, беларусы Комі, каб не забыць сваю мову, гісторыю, культуру, ствараюць нацыянальныя арганізацыі. Вясной 1996 года ў Сыктыўкары была зарэгістравана нацыянальна-культурная арганізацыя "Беларусы". Асноўная яе мэта — захаванне самабытнай культуры, традыцый беларускага народа. Адзінагалосна старшынёй савета арганізацыі быў абраны Аркадзь Крупенька, былы міністр мясцовай прамысловасці Комі, а цяпер пенсіянер. Ён удзельнік Другога з'езда беларусаў свету. Прыязджаў у Беларусь і ў складзе ўрадавай дэлегацыі Рэспублікі Комі.

Арганізацыі дыяспары існуюць у Саснагорску (3 200 асоб), Ухце (1 500). У Саснагорску жыве Георгій Усцілоўскі, актыўны член мясцовага "Мемарыяла", дэлегат Першага і Другога з'ездаў беларусаў свету, член Вялікай рады Згуртавання беларусаў свету. Ён у 1993 годзе стварыў ва Ухце беларускую суполку "Бацькаўшчына". Не шкадуючы сіл і сваёй пенсіі, увесь час праводзіць у архівах, каб адшукаць звесткі аб рэпрэсіраваных ураджэнцах Беларусі. Іх прозвішчы потым друкуюцца ў перыядычных беларускіх выданнях. Г. Усцілоўскі — аўтар кнігі "Саснагорскі мемарыял". Сыктыўкар, 1996.

Прадстаўнікі беларускай дыяспары ў Рэспубліцы Комі ўдзельнічалі ў падпісанні пагаднення паміж Расіяй і Беларуссю па стварэнні Саюза, заключэнні пагаднення паміж Комі і Беларуссю, у падрыхтоўцы да візіту Прэзідэнта Беларусі ў Комі, арганізацыі выставы беларускай тэхнікі Белаўтамаза. У рэспубліканскіх газетах надрукаваны артыкулы "Беларусы аб'ядноўваюцца пакуль адзін з адным", "Беларуская аўтаномія Комі", "Радзіма адна — Беларусь" і іншыя.

Найбольш вядомыя беларусы ў Комі — П. Галавачоў, выпускнік Мінскага лесатэхнічнага інстытута, працаваў 22 гады дырэктарам лесаперапрацоўчага камбіната ў Сыктыўкары, Ганаровы работнік народнай гаспадаркі Комі, выдатнік народнай адукацыі РСФСР; В. Бабошын, намеснік міністра ўнутраных спраў рэспублікі; І. Ізмалкоў, саліст тэатра оперы і балета; В. Вашчылка, намеснік кіраўніка адміністрацыі рэспублікі; Л. Палянская, начальнік упраўлення культуры г. Сыктыўкара; Н. Гайшук, намеснік пракурора таго ж горада; В. Кузняцоў, намеснік генеральнага дырэктара "Комінафта".

**Ніна ПЕТУХОВА.**

---

Заканчэнне.

Пачатак у №№ 9—12, 15—16, 21—22.

### СМАЛЕНШЧЫНА

Як вядома, продкі беларусаў, смаленскія і полацкія крывічы, у XI—XVI стагоддзях уваходзілі ў адзінае Вялікае княства Літоўскае, а ў XVI—XVIII стагоддзях — у Рэч Паспалітую. Таму на працягу доўгага часу беларускія і смаленскія землі знаходзіліся ў цесных палітычных, эканамічных і культурных сувязях. У пачатку XX стагоддзя, лічыў акадэмік Я. Карскі, у Смаленскай губерні пражывала каля 1 мільёна беларусаў. Многа выехала іх з Беларусі туды на пачатку першай сусветнай вайны. Усё гэта аказала вялікі ўплыў на працэс фарміравання мясцовага этнасу, яго традыцыйнай народнай культуры. Дарэвалюцыйныя даследчыкі з 12 паветаў вобласці 7 адносілі да ліку беларускіх, а Смаленшчыну — да ліку беларускіх губерняў. 575,6 тысячы жыхароў Смаленшчыны лічылі сябе беларусамі.

Пасля рэвалюцыі 1917 года на Смаленшчыне пачаўся бурны перыяд развіцця беларушчыны. Тут праводзіліся шматлікія з'езды беларускіх арганізацый: салдат, бежанцаў, грамадска-культурных работнікаў, настаўнікаў. У канцы 1917 года ў Смаленску прайшоў з'езд беларускіх грамадскіх і настаўніцкіх арганізацый, галоўнай мэтай якога было абмеркаванне палітычнага лёсу беларусаў. Былі выкладзены два погляды: з аднаго боку, пазіцыя прыхільнікаў беларускай дзяржаўнасці, з другога, — аб'яднання з Расіяй. На ім жа была прынята рэзалюцыя: "Беларусь павінна быць самастойнай". 30—31 снежня 1918 года 6-я Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РКП(б) абвясціла сябе ў Смаленску з'ездам кампартыі Беларусі і прыняла Пастанову аб стварэнні БССР у складзе Мінскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Віцебскай і Смаленскай губерняў, а 2 лютага 1919 года Расійская Федэрацыя пацвердзіла самастойнасць БССР. У 1925 годзе Смаленскім губана быў створаны Савет па асвеце беларусаў, які распрацаваў доўгатэрміновы план з наступнымі мерапрыемствамі: скласці этнаграфічную карту беларускага насельніцтва Смаленскай губерні; зрабіць спіс беларусаў, якія ведаюць ці жадаюць вывучаць беларускую мову; высветліць магчымасць пераводу некалькіх школ на беларускую мову; выкарыстаць студэнтаў-беларусаў для прапаганды і правядзення падрыхтоўкі насельніцтва да пераходу на родную мову; прасіць губана накіраваць настаўнікаў на курсы перападрыхтоўкі ў Мінск; распрацаваць канкрэтны план па адкрыццю беларускіх школ і план палітыка-асветнай работы ў гэтым напрамку. Аднак гэты змястоўны план да канца выкананы не быў. Работа па яго выкананню пачалася толькі ў прыгранічных з Беларуссю раёнах. У архівах ёсць справаздачы мясцовых органаў аб выкананні гэтага плана. Напрыклад, існуе дакладная запіска ў Смаленскі аблана наступнага зместу: "У 1927 г. у Шумячскім раёне адкрыта 11 беларускіх школ, заняткі праходзяць на беларускай мове. [...] У Руднянскім раёне адкрыта 16 школ".

Са Смаленшчынай звязаны лёс многіх славутых беларусаў. Гэта пісьменнік Максім Гарэцкі. З 1917 года ён жыў у Смаленску, супрацоўнічаў з газетай "Известия Смоленского Совета рабочих, солдатских и крестьянских депутатов", дзе апублікаваў 12 артыкулаў; выдаў "Руска-беларускі слоўнік"; адначасова ў мясцовым філіяле Маскоўскага археалагічнага інстытута вучыўся на факультэце гісторыі мастацтваў; у 1937 годзе арыштаваны УНКУС Смаленскай вобласці і расстраляны ў горадзе Вязьме. Гэта народны паэт Беларусі Янка Купала. У 1917—1919 гадах ён жыў у Смаленску, дзе працаваў агентам па забеспячэнню ў губхарчкаме; тут напісаў цыкл вершаў, які ўмоўна называецца "Смаленскім". Можна назваць таксама прозвішчы Аляксандра Ляўданскага, Данілы Макоўскага, Данілы Пагуляева, Уладзіміра Дабравольскага, Івана Хазерава. Зробленыя на Смаленшчыне археалагічныя даследаванні А. Ляўданскага ахопліваюць шырокае кола старажытнасцей — ім апублікавана 70 навуковых і навукова-папулярных артыкулаў. З 1922 да 1925 года ён вучыўся ў Смаленскім універсітэце, працаваў у абласным музеі, выкладаў ва універсітэце. Д. Макоўскі, ураджэнец Магілёўскай губерні, доктар гістарычных навук, быў прафесарам Смаленскага педуніверсітэта з 1930 да 1969 года, актыўна займаўся краязнаўствам, аўтар прац па гісторыі смаленскай зямлі. Ураджэнец той жа Магілёўскай губерні Д. Пагуляеў, доктар геолага-мінералагічных навук, прайшоў шлях ад студэнта і асістэнта да прафесара і загадчыка кафедры геалогіі Смаленскага педінстытута, унёс вялікі ўклад у вывучэнне прыроды і геалогіі Смаленшчыны. Краязнаўцу, этнографу, фалькларысту У. Дабравольскаму, ураджэнцу Смаленшчыны, належаць працы "Адрозненні ў вераваннях і звычаях беларусаў і велікарусаў Смаленскай губерні", "Абрады і павер'і, якія адносяцца да хатніх і палявых работ сялян Смаленскай губерні", зборнікі прыказак і загадак. Асноўная яго праца — "Смаленскі этнаграфічны зборнік", які ўтрымлівае вялікі матэрыял па духоўнай культуры беларусаў. І. Хазераў, ураджэнец Мінска, даследаваў помнікі архітэктуры Смаленска, Віцебска, Полацка, быў дырэктарам Смаленскага музея. Яго працы "Архітэктура Беларусі і Смаленшчыны XI—XIII стагоддзяў", "Разваліны Манамахавага сабора ў Смаленску" засталіся ў рукапісах.

У выніку рэпрэсій 30-х — 50-х гадоў і палітыкі русіфікацыі беларускія школы і культурныя арганізацыі на Смаленшчыне былі закрыты. Сёння арганізаванага беларускага жыцця на Смаленшчыне няма. Беларускай праблематыкай займаюцца некалькі навукоўцаў. Найбольш актыўны з іх — Мікалай Ількевіч, які апублікаваў кнігу пра М. Гарэцкага, некалькі артыкулаў у альманаху "Годы", удзельнічае ў беларусазнаўчых канферэнцыях у Мінску.

**Ліяна АЗАРАНКА.**

### ЯКУЦІЯ (РЭСПУБЛІКА САХА)

Ужо ў шэрагах першых заваёўнікаў Якуціі былі беларусы, якія мелі найменне "польскіх і літоўскіх людзей". Потым беларусы траплялі туды як сасланыя ўдзельнікі паўстанняў, як чыноўнікі, што накіроўваліся туды на працу, ці як людзі, што шукалі лепшай долі. Першы ўсеагульны перапіс насельніцтва Расійскай імперыі 1897 года зафіксаваў у Якуціі беларусаў 7 чалавек, палякаў 427 чалавек (сярод іх былі праваслаўныя), рускіх 30 225 (з іх 23 каталікі). Гэта азначае, што беларусы пры перапісе ўвайшлі ў лік іншых народаў. Перапіс 1926 года фіксуе беларусаў ужо ў колькасці 21 чалавек (палякаў 160, рускіх 30 156) і адзначае ў іх асяроддзі самы малы працэнт (28 працэнтаў) валодання роднай мовай з усіх народаў, што ў той час насялялі Якуцію. Савецкі час у гісторыі Якуціі адзначыўся тым, што вялікая колькасць беларусаў была выслана туды ў лагеры сістэмы ГУЛАГа, шмат беларусаў прыехала на будоўлі, на "асваенне паўночных тэрыторый" і г. д. Перапісы насельніцтва засведчылі ў гэтыя гады няўхільны прырост беларускага насельніцтва ў Якуціі: 1959 год — 2 548 чалавек, 1970 год — 4 090 чалавек, 1979 год — 6 769, 1989 год — 9 900 чалавек. Па перапісе 1989 года беларусы занялі па колькасці пятае месца сярод насельнікаў рэспублікі.

З беларускіх суполак нейкі час існавала беларускае зямляцтва "Віцяблянка". 24 кастрычніка 1990 года было зарэгістравана Беларускае культурна-асветнае таварыства "Сурадзіч", якое перастала існаваць са смерцю пісьменніка І. Ласкова ў 1994 годзе.

У асноўным беларусы пражываюць у гарадах Нерунгры (1 693 чалавекі), Якуцк (1 657 чалавек), Мірны (472 чалавекі), а таксама ва Усць-Янскім (808 чалавек), Мірнінскім (803 чалавекі), Алданскім (722 чалавекі), Аймяконскім (601 чалавек), Ленскім (494 чалавекі) раёнах Якуціі.

**Алесь БАРКОЎСКІ.**

БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

# БЕЛАСТОК: СВЯТА ДВАНАЦЦАТЫ РАЗ






Дванаццаты год запар у польскім горадзе Беластоку праводзіцца фестываль "Свята беларускай культуры ў Польшчы". У Польшчы пражывае больш 300 тысяч беларусаў па нацыянальнасці, большая частка — у раёне Беластока. У сёлетнім фестывалі прынялі ўдзел 21 калектыў з Польшчы, народны ансамбль "Сузор'е" з Брэста, народныя ўмельцы з Гродна, а таксама беластоцкія паэты і пісьменнікі, якія пішуць на беларускай мове. Арганізавала гэтае мерапрыемства польскае "Беларускае грамадска-культурнае таварыства".

НА ЗДЫМКАХ: член саюза пісьменнікаў Беларусі і Польшчы вядомы літаратар з Беластока Васіль ПЕТРАЧУК; адна з удзельніц фестывалю, член "Беларускага грамадска-культурнага таварыства" трынаццацігадовая Эмілія ТУРОЎСКА з Беластока; у час фестывалю ў Беластоку; народны ўмелец з Гродна Таццяна ПЯРВУХІНА прадставіла свае вырабы.

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**







АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

## МЕРКАВАННЕ

Дарагі Яўген ЛЕЦКА!

Шчыра дзякую за Ваш ліст. Ён мяне ўзрадаваў тым, што пасля такога доўгага перарыву вы адгукнуліся. Зразумела, атрымаць весткі ад колішняга карэспандэнта ёсць пацеха.

Што вы працуеце ў "Голасе Радзімы", я гэта заўважыў, бо рэгулярна чытаю гэту газету. У сутнасці я яе атрымліваю ад самага яе нараджэння. Яна прайшла розныя этапы. Спачатку на яе старонках, акрамя хлусні, што было лейтматывам савецкай прапаганды, на нас (маю на ўвазе эміграцыю) вылівалі розныя памыі. Пасля так званай незалежнасці быў перыяд, калі да нас (зноў жа эміграцыі) адносіліся на яе старонках па-людску. У гэтым перыядзе я меў нагоду даць у "Голасе Радзімы" два інтэрв'ю праз спадарыню Таісу Бандарэнка. У даны перыяд я заўважаю змену, сказаў бы, "паволны" паварот да ... трыманя дзяржаўнай лініі. Але, як вы вельмі трапна заўважаеце, усё залежыць ад таго, "хто ў ёй праце і хто ў яе піша збоку".

Што ж адносна майго маўчання ў друку, дык, каб высветліць, трэба было б напісаць пару старонак. У двух словах можна было б сказаць, што я занадта адкрыты і не люблю крывіць душою. Таму вельмі часта напішу артыкул, прачытаю і выкідаю ў кошык з пераканаsucceed, што яго не надрукуюць. Ваша прапанова арганізацыі вандроўкі па Беларусі мяне больш як вабіць. Ніколі не забуду вашыя запросіны, калі быў у Мінску.

Шчырае дзякуй за пажаданні нашым беларусам. Узаемныя пажаданні вам ад нас усіх.

**Янка ЖУЧКА.**

Бельгія.

ВЕСТКІ З ДАЎГАЎПІЛСА

## СУСТРЭЧА З ПАСЛОМ МІХАІЛАМ МАРЫНІЧАМ

Даўгаўпіліс наведаў пасол Беларусі ў Латвіі Міхаіл Марыніч, ён сустрэўся ў Даўгаўпілскай гарадской думе з мэрам Аляксеем Відаўскім і яго намеснікамі. Затым, наведаўшы завод ЗПЦ, меў размову з прэзідэнтам гэтага акцыянернага таварыства Г. Сарокіным, на заводзе "Лакаматыў" абмяркоўваў перспектывы супрацоўніцтва з прэзідэнтам акцыянернага таварыства Э. Бушам.

У нацыянальных касцюмах хлебам-соллю сустракалі дарагога госця сябры беларускага таварыства "Уздым". Спадар Марыніч у прысутнасці генконсула В. Марковіча і кіраўнікоў Даўгаўпілскай гарадской думы адказаў на пытанні прадстаўнікоў беларускай дыяспары ў Даўгаўпілсе. Найбольш актуальным тут было пытанне аб тым, як вырашаецца праблема ўзаемнага заліку працоўнага стажу як выхадцаў з Беларусі, якія пражываюць у Латвіі, так і выхадцаў з Латвіі, якія жывуць у Беларусі. Была выказана таксама просьба пахадайнічаць перад уладамі Беларусі, каб выхадцам з Беларусі, якія едуць на радзіму да сваіх блізкіх (каб дапамагчы ім), у парадку выключэння не трэба было плаціць пошліну за праезд праз Браслаўскі нацыянальны запаведнік.

Затым адбыўся канцэрт беларускіх калектываў, перад якім шматлікіх прысутных віталі пасол М. Марыніч і генконсул В. Марковіч. Сябар "Уздыму" Галіна Сантоцкая, як старшыня журы, падвяла вынікі конкурсу сачыненняў "Адкуль наш пачатак і дзе наш працяг?", а пасол М. Марыніч уручыў пераможцам конкурсу дыпломы і каштоўныя падарункі. За першае месца была ўзнагароджана вучаніца Беларускай нядзельнай школы Алена Бучэль, за другое месца — вучні Беларускай нядзельнай школы Марына Куцына і Міша Бучэль, за трэцяе — вучні Беларускай нядзельнай школы Вольга Меліхава і Алег Атрахімовіч і вучаніца школы Даўгаўпілскага раёна Вэлта Тэйванэ. Дыпломы атрымалі і іншыя ўдзельнікі конкурсу. Усім, хто ўдзельнічаў у конкурсе (на конкурсе было прадстаўлена 42 сачыненні са школ Даўгаўпілса і Даўгаўпілскага раёна), была абяцана экскурсія ў Беларусь восенню гэтага года.

У канцэрце хораша выступілі ансамбль "Надзея" таварыства "Прамень" з Рыгі (з беларускімі народнымі песнямі "Ой, там за гарою", "Прымак", "Ой, бяда, бяда"), ансамбль "Купалінка" таварыства "Уздым" і Цэнтра беларускай культуры (з песнямі "Азёры дабрыні", "У садзе гуляла", "Сонца ў азерцы"), ансамбль "Рабінушка" Цэнтра славянскай культуры з Прэйлі (з песнямі "Талакно", "Як хацела мяне маці", "Сустрэча").

Падчас канцэрта адбылася прэзентацыя буклета "Крокі Уздыма", у якім расказваецца аб жыцці беларусаў Даўгаўпілса, аб тым, як было ўтворана таварыства "Уздым", і аб яго дзейнасці да апошняга часу. У буклеце змешчаны багаты фоталетапіс. Прадставіў буклет прысутным яго ўкладальнік і рэдактар С. Валодзька і падараваў гэтую прыгожа аформленую кніжку паслу М. Марынічу, генконсулу В. Марковічу, мэру А. Відаўскаму і іншым шаноўным гасцям.

**Уладзімір СТАХОЎСКІ.**

АСОБА



# НЕКАЛЬКІ НАКІДАЎ ДА АДНАГО ЛЁСУ

*НІШТО ў жыцці не адбываецца выпадкова. Напэўна, і наша сустрэча з Ганнай Трасцінскай была загадзя прадвызначана ў Кнізе быцця, і хоць бачымся мы ў апошні час не так часта, як хацелася б — цякучка праклятая заядае — хачу верыць, што і ёй гэтыя сустрэчы прыемныя. Ды і ў жыцці маім пасля нарыса, якім шмат гадоў назад я "адкрыла" яе, яна зараз прысутнічае нябачна, але пастаянна. Калі мне ўпершыню расказалі пра гэтую жанчыну, рэакцыя была прыкладна такой, як ва ўсіх, каму расказваю цяпер я: гэтак не бывае...*

*Можна збудаваць бясконцы шэраг меркаванняў, як магло скласціся жыццё дзяўчынкі, што нарадзілася без рук, пры іншых умовах, калі б... Калі б не яе — думаю, зусім не перабольшу — жалезны характар.*

*НАКІД ПЕРШЫ.*

### З ДЗЯЦІНСТВА

Нарадзілася Ганна ў чэрвені 40-га. Роўна праз год, менавіта ў гэты дзень, пачалася вайна. Ці варта каменціраваць? Потым быў дзіцячы дом для дзяцей-інвалідаў, які стаў, бадай, калі не падмуркам у сталенні яе асобы, дык катлаванам пад гэты падмурак — пэўна. Можна доўга спрачацца, што было б больш гуманна для дзіцяці ў яе сітуацыі — жыць замкнёна ў простай вясковай сям'і або ў дзіцячым доме з яго складанымі адносінамі, але ўсё ж такі ў асяроддзі аднагодкаў. Я б адстойвала апошні пункт гледжання: менавіта гледзячы на гэтых аднагодкаў, Ганначка-Нюра, як яе там называлі, цягнулася за імі, хацела ні ў чым не адстаць. І дамаглася. Насуперак скептычным заўвагам многіх, самастойна навучылася пісаць — нагой. Натуральна ж, першым словам было "мама".

Вось напісала "самастойна" і спатыкнулася — правільна-правільна, менавіта самастойнасць запраграмавала далейшыя крокі. Гэтак жа самастойна Нюра ўладкавала сябе ў школу. Падчас чарговага прыезду мамы дзяўчынка выявіла, што ёй ужо спойнілася сем і ў гэтым узросце дзеці ідуць у школу. І адправілася туды, нягледзячы на адгаворы настаўнікаў, маўляў, маленькая яшчэ. "Я не маленькая, — упарта заявіла дзяўчынка, — і пісаць умею". І адразу ж прадэманстравала сваё ўменне. У школу яе ўзялі.

*НАКІД ДРУГІ.*

### З ЮНАЦТВА

...Скончана школа, што далей? Вядома ж, універсітэт і, вядома ж, гістарычны факультэт — гісторыю любіла з першых урокаў, і хацелася сваіх будучых вучняў таксама ўзбагаціць ведамі з навукі, якая калісьці яе так зачаравала... Як здавала ўступныя экзамены, асабліва пісьмовы, можна толькі ўявіць... Але гістфак яна скончыла, працавала затым настаўніцай гісторыі там, дзе вучылася сама, у Рэчыцкім доме-інтэрнаце для дзяцей-інвалідаў, ужо адным фактам сваёй прысутнасці тут у гэтай ролі "праграмуючы" на пераадоленне і сваіх вучняў.

*НАКІД ТРЭЦІ.*

### ПРА РУКАДЗЕЛЛЕ

Настойлівасць — гэта пра яе. У дзіцячым доме крыху старэйшыя дзяўчынкі — ёсць такі перыяд у жыцці — пагалоўна захапляліся рукадзеллем: шылі, вышывалі, вучыліся вязаць. Гэты бар'ер Ганна таксама ўзяла. І не проста — дасягнула і хопіць, а давяла да дасканаласці, да мастацтва. Зусім мінімальнае ўяўленне пра гэта даюць змешчаныя тут здымкі: найдрабнейшы, надзвычай акуратны крыжык на вышытых карцінах, бездакорныя мастацкія перапляценні ў ажуры сурвэтак, дарожак, каўнерыкаў, пано, кофтачак і палярын... Не кожны рукамі так здолее... Яна і ў хобі вельмі патрабавальная да сябе: калі карціна, як, напрыклад, васняцоўская "Алёнушка", патрабуе нітак 17 розных адценняў зеляніны — можна не пералічваць, там іх столькі і ёсць.

Мноства твораў пабывала на выставах рознага рангу, што нават дакументальна — дыпломамі — пацверджана. Ганна Іванаўна ахвотна дорыць свае работы людзям, якія ёй прыемныя. І незнаёмым таксама. Так, адной чы прачытаўшы пра англічанку, якая, пазбаўленая рук і ног, вырашыла нарадзіць дзіця, Ганна накіравала на адрас пасольства Вялікабрытаніі для перадачы гэтай жанчыне казачнай прыгажосці сурвэтку. Пасольства адказала лістом з падзякай, як і Прадстаўніцтва ААН у Беларусі, якому яна паднесла ў падарунак вязанае пано — з голубам міру.

... Зрэшты, да рукадзелля я яшчэ вярнуся.

На мой вялікі жаль, газетная плошча не дазваляе змясціць усе "накіды", якія хацелася б: накід чацвёрты — са спорту (Ганна Іванаўна — чэмпіён Беларусі сярод інвалідаў па шахматах); пяты — з грамадскага жыцця (яна стаяла ля вытокаў стварэння Беларускага таварыства інвалідаў, доўга працавала ў ім дыспетчарам, аб'ядноўваючы, падтрымліваючы, каардынуючы); шосты — з прызнання (адной з нямногіх у яшчэ былым Саюзе Трасцінская была ўдастоена медаля "Адолеўшыя лёс"); сёмы — з дружбы (шмат іх — сяброў, як кажуць, ва ўсім свеце, што гатовыя — узаемна — пры неабходнасці падставіць плячо або проста так прыехаць, пасядзець, пагаманіць "за жыццё", пачаставацца яе непаўторным чаем з травамі, а калі з нагоды, дык і пірагом, ёю спечаным).

*НАКІД АПОШНІ.*

### ЯКІ ВЯРТАЕ ДА РУКАДЗЕЛЛЯ

Адзін час у Ганны Іванаўны выспела задума — сабраць "пад адной вокладкай" свае вязана-вышытыя работы, выдаўшы каляровы альбом. Але цудоўная гэта ідэя так і памерла, як кажуць, не паспеўшы нарадзіцца: патрэбна немалая сума грошай, якой у Ганны Іванаўны, вядома ж, няма. А шкада, гэтая добрая справа была б зроблена не толькі для адной канкрэтнай Ганны Трасцінскай, але і для мноства людзей, якія, зусім верагодна, здолеюць, азнаёміўшыся з яе лёсам і творамі, перамагчы, знайсці або зацвердзіць сябе ў жыцці...

**Мірослава СУЛЬДЗІНА.**



*Паядынак.*



*Жар-птушка.*

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

КОНКУРС

# У СТЫЛІ БОДЗІ — АРТ

***III Міжнародны чэмпіянат Беларусі і адкрыты конкурс на кубак Мінска па цырульніцкаму майстэрству прайшоў у Мінску. Звыш ста пяцідзесяці ўдзельнікаў з Расіі, Беларусі, Літвы, Украіны спаборнічалі за званне — лепшы цырульнік.***

***НА ЗДЫМКАХ: на конкурсе "Паўсядзённая стрыжка"; адна з мадэлей прычосак у намінацыях "Дыскатэка XXI стагоддзя" і "Новая геаметрыя"; у стылі бодзі-арт.***

**Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.**







# МАЛАДОСЦЬ ПАД СТАРАЖЫТНЫМІ ВЕЖАМІ

Мірскі замак — знакаміты помнік дойліды. Ён знітоўвае стагоддзі, эпохі і цэлыя пакаленні. Сёлета ў ліпені да яго старажытных сцен накіроўваюцца 50 студэнтаў з розных куткоў Беларусі. Яны збіраюцца ў працоўным лагеры, арганізаваным Беларускай асацыяцыяй клубаў ЮНЕСКА. На працягу чатырнаццаці дзён хлопцаў і дзяўчат чакае карпатлівая і адказная праца па рэстаўрацыі Мірскага замка. Вельмі спатрэбіцца іх сіла і ўменне і пры добраўпарадкаванні Італьянскага парку, што раскінуўся пад старажытнымі вежамі: неабходна сабраць смецце, павысякаць старыя дрэвы і "самасевы". Плануецца распрацаваць схему замкава-паркавага комплексу і ўстанавіць інфармацыйныя шчыты з адлюстраваннем магчымых турысцкіх маршрутаў. Удзельнікі лагера пазнаёмяцца з гісторыяй Мірскага замка і, напэўна, здолеюць наладзіць кантакт з былымі пакаленнямі, "памацаць" старажытнасць, увасобленую ў непарушных сценах. Кожны дзень будуць чытацца цікавыя лекцыі па экалогіі, менеджменце, тэорыі лідэрства, здароваму ладу жыцця. А ўвечары — адпачынак. Конкурсы, спаборніцтвы, песні пад гітару ля вогнішча... — тут ужо поўная свабода выбару. А ў дзень чатырнаццаты лагічным завяршэннем лагера стане пленэр "Мірскі замак вачамі сучаснікаў". Кожны атрымае унікальную магчымасць непасрэдна сярод старажытных муроў прадэманстраваць сваю творчую фантазію праз жывапіс, скульптуру, спевы, драматычнае дзеянне.

Па словах Дзяніса Буткевіча, каардынатара адукацыйных праграм для студэнтаў Беларускай асацыяцыі клубаў ЮНЕСКА, на Беларусі ёсць яшчэ нямала помнікаў дойліды, якія чакаюць дапамогі. Таму арганізацыя — у разліку на наступныя гады — ужо зараз разглядае новыя аб'екты дзеянняў — садова-паркавы комплекс XIX стагоддзя ў паселішчы Бачэйкава Віцебскай вобласці, Гальшанскі і Лідскі замкі на Гродзеншчыне.

**Руслан АНАНЬЕЎ.**

## ГАВОРАЦЬ ДЗЕЦІ

**Маці кажа сыну:**
**— Вось глядзі, я кладу ў чай сярэбраную лыжачку, таму што ад серабра гінуць усе мікробы.**
**— А ты хочаш, каб я піў чай з памерлымі мікробамі?**

* * *

**Хлопчык дрэнна есць кашу. Маці кажа, калі ён будзе так есці, то яна пакліча Бабу-Ягу. А хлопчык адказвае:**
**— Мам, а ты думаеш, што яна будзе есці гэтую кашу!**

**К. КАРНЯЛЮК**

ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА

# ДАМАВІК

**Алег МІНКІН**

**Вандруе па клеці сівы дамавік,**
**Стукоча маркотна яго чаравік,**
**Чапляюцца вусы за ногі, а нос**
**Да сківіцы моркаўкаю шызай прырос.**

**Са скурчаных пальцаў тырчаць кіпцюры —**
**У жаху глядзяць на іх мышы з нары.**
**Вось ён, уздыхнуўшы, на бочку прысеў,**
**Расол горкі смокча і храпку грызе.**

**І дзетак чакае, што ў цёмную клець**
**Прыходзяць пад ноч на яго паглядзець...**
**Ніхто не прыходзіць, і крыўдна да слёз:**
**Сапе ён і чэша марковіну-нос.**

* * *

Хто з нас не памятае бабуліных апавяданняў-казак аб цудадзейных магчымасцях хітрага дамавіка? Усе мы ў свой час захапляліся ім і адначасова палохаліся яго таямнічай дзейнасці. Для нашых продкаў дамавік, які заўжды жыў побач з людзьмі, з'яўляўся вельмі важнай асобай, у яго існаванне не проста верылі — яму пакланяліся і вельмі шанавалі.

А. Афанасьеў падае такі партрэт дамавіка: "Увесь аброс густой поўсцю і мяккім пухам, нават далоні і падэшвы ў яго ў валасах, толькі твар ля носа і вачэй — голы. Далонню дамавік гладзіць начамі сонных, і тыя адчуваюць, як кусаецца яго рука. Калі ён гладзіць цёплай і мяккай рукой — гэта прадракае шчасце і багацце, а калі халоднай — тады быць гору".

Паводле рускага павер'я, дамавік асабліва лютуе 30 сакавіка. У гэты час ён вельмі сярдзіты: блытае ў коней грывы, стукае па лесвіцах, б'е ў сцены, пужае жывёл і г. д., а пасля здалёк даносіцца яго злы і непрыемны смех. Тлумачацца такія паводзіны тым, што дамавік у гэтую ноч скідае старую шкуру. Але ўсе бясчынствы спыняюцца, калі певень праспявае трэці раз, бо дамавік вельмі баіцца пеўня.

У беларускіх фальклорных крыніцах дамавік апісваецца як невялічкі і смяшлівы чалавечак, які ў пэўных выпадках мог быць злым і сярдзітым.

Лічылася, што часцей за ўсё жыве дамавік у печы, і пры пераездзе на новае месца жыхарства гаспадыня выграбала ўвесь жар з печкі і пераносіла яго ў новую хату, нашэптваючы пры гэтым адпаведныя замовы, якія запрашалі дамавіка жыць у новым доме.

Дамавіку абавязкова трэба было даваць есці. "Звычайна на прыпечку ставілі гаршчок з кашай і пакідалі яго на ноч, каб хатні вартаўнік не саромеўся людзей і паеў. У некаторых мясцінах кашу высыпалі ў агонь, а калі яна пачынала патрэскваць у полымі, то лічылі, што гэта дамавік пачаў есці. Вядома таксама, што ежу ставілі пад стол, пад печ ці за вугал".

Беларусы называлі дамавіка вазілаю ці баганом. Называлі яго таксама хатнікам, падпечнікам (за тое, што любімым яго месцазнаходжаннем была печ), гаспадаром.

Дамавік быў своеасаблівым, важным членам сям'і. І калі людзі жылі з ім у сяброўстве, ён заўсёды дапамагаў ім па гаспадарцы (рабіў палі ўрадлівымі, кароў — багатымі на малако). Калі ж здаралася нейкая бяда і патрабавалася дапамога дамавіка, яму рабілі так званыя "адносы" (акрайчык хлеба з соллю ў анучы), якія клалі пад вароты, у печ, у паветку.

Вось такім таямнічым і цікавым паўстае перад намі з народнай міфалогіі вобраз дамавіка, які займае ганаровае месца сярод герояў беларускіх казак і легенд.

**Падрыхтавала Нелі ПРЫВАЛАВА.**

# ЛІЧБАВАЯ

Сутнасць яе ў тым, што ў клетках крыжаванкі па гарызанталі і вертыкалі трэба правільна расставіць 38 прыведзеных ніжэй шматлічбавых лікаў. Варыянт расстаноўкі толькі адзін. Для таго каб пачаць расстаўляць лікі, прыведзены адзін — 468135. Далей, нібы пацеркі, можна нанізаць усе астатнія лікі.

| | | |
|---|---|---|
| 10531 | 468135 | 1339 |
| 13540 | 5344507 | 61346805 |
| 1904 | 187899 | 55340 |
| 9342810 | 430861 | 4915 |
| 1673883 | 63235 | 7400357 |
| 5532204 | 39140 | 73409 |
| 73201 | 310594 | 305993 |
| 302591 | 1345899 | 3300591 |
| 43001244 | 42210 | 93440 |
| 33240350 | 642015 | 4137091 |
| 36841053 | 3465 | 50305 |
| 50670 | 10101 | 913131 |
| 402 | | 151 |

**Склала Ірына БЕКІШ.**




# КРЫЖАВАНКА

«Голас Радзімы»

Рэдактар
Наталля САЛУК

Заснавальнікі:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.
Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 625 экз. Індэкс 63854. Зак. 1245.
Падпісана да друку 5.07.1999 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

Наш адрас:
220005, Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны:
(+375-17) 213-31-97,
213-32-80, 213-30-15,
284-76-56, 213-37-82.